



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 сакавіка 2017 года №10 (1141)




# 22 найменні тартоў прыгатавалі да свята вілейскія кандытары

Кандытарка Вольга Карпічэнка ўпрыгожвае крэмам тарты "Белая вежа".


старонка 2


Фота Наталлі ТУР.

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 11 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 | | +2 | | +1 | | +1 | |
| | +5 | | +2 | | +2 | | +2 | |
| | 737 | ↗ 3 | 740 | ↙ 2 | 743 | ↙ 7 | 745 | ↓ 6 |
| Вільня | +3 | | 0 | | -1 | | -1 | |
| | +3 | | +2 | | +3 | | +2 | |
| | 746 | ↘ 6 | 750 | ↙ 5 | 753 | ↙ 4 | 755 | ↓ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.35
Захад 19.09
Даўжыня дня 11.34

Усход 17.51
Захад 7.16
Поўня




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -26 °С у 2005 годзе
Максімальная тэмпература +13,9 °С у 1961 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,8 мм у 1983 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Чаму беларусы дзівяцца, трапляючы ў Польшчу? Які штуршок дапамог палякам быць асцярожнымі на дарозе і наколькі паважліва ставіцца да пешаходаў? Чаму польскія мужчыны большыя джэнтльмены за беларусаў?

● ГІСТОРЫІ З ЖЫЦЦЯ

### Малюнак, які можа пагоршыць зрок

Як сябар збіраўся вучыцца ў аўташколе, пачаў праходзіць медыцынскую камісію. Нараканняў на здароўе не было, ішоў да дактароў без боязі.

Аказалася, што не ўсё так проста. Арліны зрок падвёў у акуліста.

– Звычайна ж паказваюць літары ці кругі са шчылінай у пэўным месцы, – расказвае мужчына. – На мне сістэма зламалася, чамусьці пачалі паказваць табліцу, па якой правяраюць зрок дзецям, з выявамі жывёл. Малюнак добра бачу, але чамусьці ніяк не магу ўспомніць, як гэта жывёліна называецца. Ад гэтага і пачаў моршчыцца, напружваць мозг. Доктар жа расцаніла гэта так, што не бачу выявы. У медкартцы мой добры зрок пайшоў у мінусы.

18-гадовы хлопец тады не патлумачыў доктару, што справа не ў зроку, а ў малюнках, назвы якіх не мог угадаць.

### Як ускладніць задачу праверкі на дальтанізм

Другі знаёмы ўзгадаў, як праходзіў тэст на дальтанізм. Працэдура дастаткова простая: на старонцы малюнак, зроблены рознымі колерамі, калі адрозніваць іх, то ў цэнтры бачна альбо лічба, альбо геаметрычная фігура.

Аднак мужчына ўскладніў сабе задачу. Яму падалося, што трэба ўбачыць знак, надрукаваны вельмі дробным шрыфтам.

– Я і так я і сяк узіраюся ў цэнтр малюнка, аднак ніякага надпісу не бачу, – расказвае знаёмы. – Ужо злавацца пачаў, мяўляў, што вы мне галаву дурыце, ніякіх лічбаў і геаметрычных фігур тут няма. Толькі, калі ўзяў кніжку на выцягнутых руках, зразумеў, што ад мяне патрабуюць, справа пайшла значна хутчэй.

**Дзяліцеся сваімі гісторыямі па нумары (80176) 76-96-67 альбо праз электронную пошту regionnews@rh.by.**

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якія мясціны ў вашым раёне вы параілі б наведаць замежным турыстам?



**Павел Казлоўскі, студэнт, Смаргонь:**
– У самой Смаргоні няма такіх цікавых месцаў. А ў Смаргонскім раёне параіў бы з'ездзіць у Залессе. Тут жыў вельмі вядомы чалавек Міхал Клеафас Агінскі.



**Андрэй Чаеўскі, пенсіянер, Мядзел:**
– І далёкія, і блізкія турысты едуць на возера Нарач. Са славутасцяў можна яшчэ пабываць у аптэкарскім садзе, у вёсцы Пількаўшчына, дзе нарадзіўся паэт Максім Танк.



**Жанна Кавалёва, педагог, Вілейка:**
– Каб не быць банальнай, хачу параіць язычніцкія пахаванні ў вёсцы Каўшэвічы, урочышча Вінцантова, дзе ёсць старажытны кар'ер глыбінёй дзесяць метраў, сядзібу паноў Багдановічаў у Старынках.



**Анастасія Хаванская, вучаніца, Вілейка:**
– Канешне, наша Вілейскае вадасховішча! Яно такое вялікае і прыгожае. Дзе яшчэ можна лепш адпачыць?



**Наталля Кучомка, прадавачка, Маладзечна:**
– Так сходу цяжка сказаць. Ну, парк у нас прыгожы. Помнікі ёсць цікавыя, напрыклад "Шталаг-342". Але такіх мясцін, каб можна было параўнаць з тым жа Нясвіжам, у нас, у Маладзечанскім раёне, напэўна, і няма.



**Валянціна Ліштван, работнік культуры, Ашмяны:**
– Ёсць цікавыя мясціны менавіта для мяне, але гэта не датычыцца саміх Ашмянаў... Нявесцін камень каля вёскі Навасёлкі, Гальшанскі манастыр і замак. Ёсць, праўда, у нас маёнтак Лейбы Стругача – заснавальніка нашага дрожджавага завода, але ён у нікчэмным стане.



**Вольга Самаркіна, навуковы супрацоўнік, Смаргонь:**
– У першую чаргу, раіла б наведаць наш музей у Смаргоні, знаёміць Крэўскі замак. Калі ўжо турыст даехаў у Крэва, варта зайсці ў мясцовую школу. Там вельмі добры народны школьны музей. У парку – скульптурную кампазіцыю "Мядзведжая акадэмія". І абавязкова трэба набыць на памяць сувенір з мядзведзікам – сімвалам горада.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№10 (1141) 10.03.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 230. Падпісана ў друк у 9.00 9.03.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.




**Куплю**
**Прадам**
**Зраблю**

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ВІНШАВАНКА

**Таццяне Міхайлаўне АПЯЦЁНАК**
**Наталлі Міхайлаўне ШАЮК**
**Яўгеніі Канстанцінаўне РАФАЛОВІЧ**
**Дар’і Аляксандраўне СНЯЖКО**
**Кацярыне Андрэеўне МАЦКЕВІЧ**
**Юліі Антонаўне СЯНЬКО**
**Жанне Мечыславаўне АСІПОВІЧ**
**Ганне Аляксандраўне БІТЭЛЬ**
**Аксане Станіслававне ШАСЦІЛОЎСКАЙ**

**Са святам вясны і 8 Сакавіка!**



*Дарите женщинам цветы –*
*И станут взгляды их милее.*
*Дарите женщинам мечты –*
*И станут женщины добрее.*
*Дарите женщинам мгновенья –*
*И безмятежны будут сны…*
*Большой корабль надежд любви*
*Не будет ведать столкновений,*
*Не будет слёз и огорчений,*
*Не будет в мире суеты…*
*Чтоб не штормило корабли –*
*Дарите женщинам отвагу!*
*Чтобы поменьше суеты –*
*Дарите женщинам мечты!*
*За мир добра и красоты –*
*Дарите женщинам цветы!*

**Здароўя, поспехаў у працы, сямейнага шчасця. Самых лепшых і мудрых вучняў і ўсе кветкі свету да Вашых ног.**

**Вучань 5 "В" класа СШ № 2 г. Маладзечна ЛЯПЦЮК Канстанцін.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-11113 Ака 0,75 пасля капрамонту, 800 руб.Т. (8-029) 3790419
- ВАЗ-2103, 1978 г.в., Вілейка. Т. (8-029) 1214671.*
- Опель-Зафіра, мінівэн, 2000 г.в., 2,2Б, 147 л/с, опцыі, дыміць рухавік. Т. (8-025) 5108699.
- ФВ-Пасат, 1992 г.в.,1.6D па запчастках. Т. (8-033) 3363343.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Дыскі R-15. Т. МТС (8-033) 6016803.
- Запчасткі б/у да Опель-Астры, 1997 г.в., 1,6 мона, хэтчбэк. Т. (8-044) 4703638.
- Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Рухавік ВАЗ-2101. Т. (8-044) 4703638







### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Ваш аўтамабіль дорага. Т. (8-029) 5016877.*
- Дапамагу прадаць ваш аўтамабіль. Т. (8-029) 5016877.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Сітраэн-Ксара, можна аварыйны. Т. (8-025) 9249978.*
- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Камп’ютарная дыягностыка аўто, чып-цюнінг, аднаўленне шаравых апор, выдаленне ЕГР, сажавага фільтра, каталізатара. chipauto.by ПУП "ЛенВіРо" УНП 691505812 Т. (8-029) 3426222.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, 8, кв. 116; 5 паверх, пад’езд 4. Агульная плошча 24,4 кв. м, жылая 12,6 кв.м, кухня 5,5 кв. м, санвузел сумешчаны 2,9 кв.м, балкон зашклёны, вокны ПВХ, дзверы металічныя. Побач банк. Т. (8-033) 6332446.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*
- 3-пакаёвая кватэра ў раёне Зеніт у Вілейцы. Т. (8-025) 9215866.*
- 3-пакаёвая кватэра, 65 кв. м, у цэнтры Мядзела, 100 м да возера, цана 48000 руб. Т. (8-029) 6788681.



- 3-пакаёвая кватэра, 73,4 кв.м, цэгла, 2 балконы 3 м, цэнтр Смаргоні. Т. (8-029) 6689483.*
- Гараж у ГК "Ізбіна" у Вілейцы. Т. (8-029) 1214671.*
- Гараж у ГК № 24 г. Маладзечна. Т. (8-029) 2567370.*
- Дача «Рубін-2001» у в. Забалацце, 4 км ад Маладзечна, 11 сотак зямлі. Дом блочны, хлеў, калодзеж, душавая, лазня. Прадам нядорага. Т. МТС (8-029) 5703669.*
- Дом вялікі і добры ў в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні, выдатнае месцазнаходжанне. Т. (8-029) 8724272.
- Дом у в. Баранцы Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1201068.*
- Дом у в. Ілішчавічы Вілейскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3204197.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.
- Дом у в. Цынцавічы. Т. (8-033) 6026455.*
- Дом у вёсцы Мамаі Вілейскага раёна на беразе ракі Вілія. Плошча 43 кв. м, на 22 сотках зямлі вялікі сад. Т. (8-01771) 71166, (8-025) 5223147.*
- Дом у Вілейцы каля ракі. Т. (8-01771) 35233, (8-029) 7616986.*
- Дом. Т. (8-029) 5578775.
- Участак з домам у в. Порса Вілейскага раёна. Т. (8-029) 1214671.*

### ЗДАМ

- Пакой ў кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*
- У арэнду гандлёвае памяшканне плошчай 94 кв.м у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-029) 7649962, (8-029) 7613299.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А..*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баяніст. Фота. Відэа. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- Відэаздымка падзей. Т. (8-033) 3494488.*

УДЗЕЛЬНІКІ КОНКУРСУ "АДПАЧЫНАК"

# Жыццё і адпачынак інваліда-вазочніка

**Тэорыя і практыка – розныя рэчы. Пакуль не паспрабуеш штосьці на сваёй шкуры, не зразумееш з'яву да канца. Жыццё ў інвалідным вазку – з той самай серыі.**



Фота забяспечана Дар'яй ЛІС.

Дар'я Ліс.

На жаль, у Беларусі любяць ускладняць тое, што магло б быць простым і лагічным. Ствараюцца бар'еры, каб іншыя мужна іх пераадольвалі. І аматары бар'ераў не могуць сабе ўявіць нават, што такімі "іншымі" могуць стаць яны самі. Жыццё непрадказальнае.

У Літве ёсць цікавае месца для адпачынку і рэабілітацыі людзей на інвалідных вазках. Усё максімальна зручна, безбар'ерна і проста. На самым беразе Балтыйскага мора – паміж Палангай і Швянтоі – размясціўся кемпінг для вазочнікаў ды іх сямей, Монцішкес. Ад канца красавіка да пачатку лістапада тут дзейнічае 14 рэабілітацыйных праграм для людзей, што нядаўна атрымалі траўмы. Мастацтва, спорт, народныя промыслы. На працягу 10 дзён вазочнік з суправаджальнікам адпачывае тут бясплатна і вучыцца жыць нанова пасля атрыманай траўмы.

Людзі, што ўжо навучыліся жыць пасля траўмы (а выбару няма па вялікім рахунку!), маюць магчымасць адпачыць на моры раз на год па вельмі сціплых коштах. Разам з сям'ёй і сябрамі. Кемпінг падтрымліваецца дзяржавай і фундатарамі-прыватнікамі. Тут могуць жыць адначасова 150 чалавек. "Старыя" вазочнікі міжволі натхняюць "новых", дапамагаюць не на словах, а на справе, што жыццё пасля траўмы ці хваробы не спыняецца.

У свой час Асацыяцыя параплегікаў Літвы атрымала грошы ад дзяржавы на развіццё, як і некаторыя іншыя арганізацыі людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. І вельмі ўдала гэтыя грошы скарыстала, стварыўшы цудоўную прыморскую базу адпачынку. Аналагаў ёй у суседзяў няма. Не бальніца, не санаторый – месца, дзе людзі на вазках могуць жыць, адпачываць, знаёміцца і дзяліцца досведам. Самастойна. Загараць, плаваць, смажыць шашлык.

Пасля развалу СССР усе былыя рэспублікі імперыі раптоўна зразумелі, што правы чалавека з інваліднасцю доўгі час парушаліся і варта сітуацыю выпраўляць, калі мы імкнёмся быць разам з цывілізаваным светам. Літоўцы хацелі трапіць у Еўропу і… маюць значныя поспехі ў параўнанні з беларусамі ў дадзеным накірунку.

У беларусаў няма свайго мора, але ж ёсць рэкі і азёры. Вельмі прыгожыя. Чаму нельга пабудаваць на Нарачы лагер-кемпінг для вазочнікаў і іх блізкіх? Дакладней, чаму б нашым вазочнікам не прапанаваць такі праект нашай дзяржаве? Чаму б той яго не падтрымаць? Адказ на гэтыя пытанні – асобная тэма і гісторыя асобная.

**Дар'я ЛІС.**

P.S. Кошт пражывання ў безбар'ерным доміку для беларусаў склаў 11 еўра з чалавека за суткі. Гэта значна танней, чым беларускі санаторый ці літоўскі прыморскі гатэль. Са "сваіх" бяруць значна менш, што цалкам справядліва.

## Падарожжа ў Прагу

**Вітаю вас, сябры! Хачу расказаць вам пра сваё невялікае падарожжа ў сталіцу Чэхіі.**

Прага – вельмі прыгожы стары горад, які абавязкова трэба ўбачыць сваімі вачыма. Адправіліся мы туды восенню на цэлыя тры дні. Калі вы падарожнічаеце не на машыне, танны варыянт адправіцца ў Прагу на аўтобусе.

З Мінска ў Прагу мы дабраліся за суткі. Раю вам купляць білеты на аўтобус з перасадкай у Варшаве. Так атрымоўваецца значна танней. У Польшчы ёсць некалькі аўтобусных перавозчыкаў, якія перыядычна прапаноўваюць скідкі на білеты. Гэту інфармацыю неабходна адсочваць у інтэрнэце. Мы жылі ў гасцініцы практычна ў самым цэнтры. Трохмесны нумар са сняданкам і ўласнай ваннай абышоўся нам каля 60 еўра за суткі.

Дак вось, Прага...

Прага зачаравала нас. Гэты горад літаральна прасякнуты гісторыяй. Тут вельмі шмат турыстаў. Днём на Карлавым мосце яблыку няма дзе ўпасці. Таму раю не ленавацца і адправіцца на мост зранку. Вы адназначна не пашкадуеце. Вас чакае надзвычайны від.

Чэхі не вельмі добра разумеюць рускую мову. Але ж паразумецца вы зможаце. Валюта Чэхіі – кроны. Таму раю загадзя абмяняць грошы на радзіме ці ўзяць з сабой еўра. У горадзе велізарная колькасць абменных пунктаў, у якіх, дарэчы, можна і патарґавацца, абменьваючы грошы.

У Празе шмат кафэ і крамаў, таму галоднымі не застанецеся. Сярэдні чэк у кафэ на чалавека складае 6-7 еўра без уліку спіртных напояў. На вуліцах горада прадаюцца вядомыя чэшскія крэндлікі, трубачкі з салодкага цеста, якія каштуюць 2,5 еўра. Кожны падарожнік лічыць неабходным пакаштаваць іх.

Абавязкова раю прогуляць па Празе, аддаліўшыся ад турыстычных сцежак. Так вы зможаце адчуць сапраўднае жыццё горада. Прага вельмі прыязны і спакойны горад. Нават ноччу на вуліцы мы адчувалі сябе ў бяспецы.

Знаходзячыся ў Празе, мы ўспомнілі, што ў гэтым горадзе правёў свае апошнія дні наш першадрукар Францішак Скарына. І сталіца Чэхіі на імгненне падалася нам па-свойму роднай...

**Аксана АЛЯКСЕЕВА.**



Фота забяспечана Аксанай АЛЯКСЕЕВАЙ.

Касцёл Святога Віта ў Празе.

# Вілейскія мужчыны цюльпаны калегам купляюць 6 сакавіка

**Ад 6 сакавіка ў Вілейцы на вуліцах пачалі прадаваць цюльпаны.**

Канешне, дажджлівае і ветранае надвор'е сапсавала крыху гандаль.

Аднак вясёлыя прадавачкі прызнаюцца, што мужчыны сёння купляюць актыўна – на носе карпаратывы.

Так і ў момант, калі рабіліся фоткі, супрацоўнікі адной з вілейскай фірм куплялі букеты сваім калегам-жанчынам.

– Жонкам пакуль ранавата, прыйдзем з раніцы 8 сакавіка, – смяюцца віляйчане.

Купляюць кветкі цёмна-бардовага колеру. Але прадавачкі прызнаюцца, што пакуль самыя папулярныя – белыя і фіялетавыя.

Аднак выбраць можна на любы густ: аранжавыя, чырвоныя, жоўтыя, пярэстыя, ружовыя.

Старонку падрыхтавала Наталля ТУР.



Цюльпаны пахнуць вясной.



Белыя і ліловыя цюльпаны – самыя папулярныя ў пакупнікоў.



Цюльпаны на любы густ прапануюць вам прадавачкі з Вілейкі.



– Оптам танней, – смяюцца пакупнікі. – Давайце не будем таргавацца, нам жа яшчэ ісці вершыкі віншавальныя вучыць.



Каштуе адзін цюльпан 2 рублі.

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах. Вёска Дварэц

*Працяг. Пачатак у №№1, 2.*

**Гэта частка гісторыі майго краю таксама напісаная з распаведаў сведак тых далёкіх і трагічных часоў пра пакутніцкі лёс.**

Паэт, пісьменнік і перакладчык **Уладзімір Папковіч** вайну памятае не вельмі добра. Але ў яго дзіцячую памяць на ўсё жыццё ўрэзаўся адзін момант ваеннага ліхалецця. Гэта як у вёску наляцелі бандыты. Усе яны былі конна і як адзін з іх, з азвярэлым тварам, невядома за што лупцаваў парканінай па галаве свайго жарэбчыка. Бедная жывёліна ржала, спрабавала падымацца на дыбкі, каб вызваліцца ад свайго гаспадара-ката, але сядзелец моцна трымаў зацугляннага жарабца. Садко, так называлі яго тыя, з кім ён прыехаў, супакоіўся толькі пасля таго, як за жывёліну заступіўся іншы бандыт.

Акрываўленая галава каня і азвярэлы твар таго бандыта ва Уладзіміра Антонавіча стаяць перад вачыма яшчэ і сёння. Ужо пасля вайны, калі ён вучыўся ў Ільянскай школе, то некалькі разоў сустракаў таго бандыта-садыста, кульгавага на адну нагу, які пастаянна і заўжды п’яны боўтаўся на мясцовым рынку.

А вось сястра Уладзіміра Антонавіча, **Леаніла Антонаўна**, вайну памятае добра

### Распавед Леанілы Антонаўны Папковіч

Леаніла Антонаўна нарадзілася ў 1928 годзе і да прыходу бальшавікоў у 1939-м паспела скончыць тры класы польскай школы. Далей вучыцца не было магчымасці. Савецкая ўлада пазачыняла ўсе польскія школы, а іншых не паспела адчыніць, бо пачалася вайна. Яна распавядала, што падчас вайны іх сям’я лясных бандытаў не вельмі баялася, таму што ў іхняй хаце "кватаравалі" партызанскія камандзіры. Але як толькі немцы распачыналі акцыю супраць партызан, то ўсе з вёскі даваліся на ўцёкі, кваранты ў адзін бок, жыхары – у іншы.

Вось толькі некаторыя яе ўспаміны, якія вельмі моцна ўрэзаліся ў памяць.

Калі пачалася вайна, іхняя вёсачка Дварэц, як і ўсе навакольныя, апынулася паміж двух агнёў. Днём наязджалі з гарнізонаў (з Хаценчыцкага і Ільянскага) нямецкія карнікі, рабавалі, забівалі, здзекаваліся з людзей. Ноччу ж наляталі лясныя бандыты, таксама рабавалі, гвалцілі дзяўчат ды жанчын. Па не правераных даносах знішчалі цэлыя сем’і, не пакідаючы ў жывых нават дзетак. Смерць надчаквала на кожным кроку і невядома адкуль.

Неяк восенню 12-гадовая Лёнька са сваім сямігадовым брацікам Валодзькам капалі бульбу на сваім полі, якое знаходзілася акурат паміж Дварцом і Рабцамі. Раптам у паветры пачуўся гул матораў. Падняўшы галовы, заўважылі ў вышыні шмат самалётаў з крыжамі на крылах, якія кружыліся над Рабцамі і штосьці скідалі. Хоць узрыву і не было чуваць, але над Рабцамі пачаў падымацца чорны дым, а ў след за ім вялізнае полымя. Вёска ўся палыхала.

– Адзін з самалётаў накіраваўся ў наш бок, – расказвае Леаніла Антонаўна. – Страляючы па нас з кулямёта, ён праляцеў над нашымі галовамі так нізка, што мы ці то самі паваліліся ў баразну, ці то паваліла хваля паветра ад яго. На шчасце, кулі нас не закранулі. Пакуль самалёт пайшоў на другі круг, мы з Валодзькам паспелі адпаўзці і схавацца ў прыдарожнай канаве.

Зрабіўшы сваю злачынную справу, самалёты зляцелі. Увечары мы даведаліся, што падчас бамбёжкі ў Рабцах загінула **Анюта Спірыдовіч** са сваімі малалетнімі дачушкамі. Адной з іх было пяць, а другой толькі тры годзікі. Жанчына схавалася ад абстрэлу з самалётаў пад яблынькай, прытуліўшы да сябе дачушак, але не выратавалася, кулямётная чарга скасіла ўсіх траіх.

У гэты ж дзень была знішчана і суседняя з Рабцамі вёска – Заельнікі. Наша вёска засталася цэлай. Немцы знішчылі толькі хутар **Канстанціна Шахрая**, які знаходзіўся каля самага лесу за Дварцом і выкарыстоўваўся пад партызанскі шпіталь.



Фота забяспечанае Аляксандрам РАТКЕВІЧАМ.

Леаніла Міцько (Папковіч) распавядае пра падзеі ваеннага часу.

### Подзвіг маці

Наступіўшы 1943 год прынёс новыя выпрабаванні. Блакада пагнала партызан на Палік, а безабаронныя дварчане ўсёй вёскай рушылі ў глухі забалочаны лясны масіў паміж Лукаўцом і Зачарной. Апошнім часам там было накрыжавана буралом шмат вялізных ялін, вывернутых з каранямі, якія былі асновай для будана і служылі людскім сховішчам – жыллём замест зямлянак.

Аднойчы надвячоркам, калі ўсе клаліся спаць, з аднаго будана разнасіліся плач дзіцяці і жаночы гвалт. Усё дарослае вясковае насельніцтва павыскоквала са сваіх схованак на гэты крык, небяспечны для ўсіх.

Высветлілася, што ў сям’і з суседняй вёскі немаўля моцна расплакалася, а маладая мама ніяк не магла супакоіць дзіцятка. Любы шум пагражаў усім смерцю. Старая жанчына з гэтай сям’і на поўным сур’ёзе дала маладзіцы загад: "Душы дзіця, бо яно загубіць усю вёску"!

Пачуўшы такое, маладая маці зняла з сябе нейкі пінжачок, загарнула малога, завязала яму на галоўку нейкую хусцінaчку і са слязьмі на вачах рушыла ў невядомасць.

Натоўп, які ціхенька назіраў за ўсім, што адбывалася, паволі стаў разыходзіцца да сваіх буданоў. Людзі пачалі ўладкоўвацца на начлег на нары каля сваіх дзетак, застаючыся кожны са сваімі думкамі.

Прайшло некалькі дзён. Страляніна ў ваколіцах пачала сціхаць. Блакада рухалася далей на Усход. Разведаўшы, што немцаў на дарогах і ў вёсках няма, сем’і пачалі збіраць клункі. У нейкі момант вяскоўцы заўважылі ўдалечыні сярод густога ельніку жаночую постаць з нейкім клункам перад сабой. Добра прыгледзеўшыся, яны распазналі ў ёй тую самую маладзіцу з дзіцем. Звалі яе Нінай, а немаўля Шуркам. Усе рушылі ёй насустрач. Якой радаснай і шчаслівай для ўсіх была гэта сустрэча. Усе ўздыхнулі з палёгкай.

Муж Ніны быў партызанам і загінуў. Ніна адна выгадавала сына і выправіла яго ў людзі.

### Трагедыя цёткі Вікці

Застанецца назаўсёды ў памяці Леанілы Антонаўны трагедыя, якая здарылася ў сям’і яе цёткі Вікці Маскалевіч з Брыгідава.

Муж цёткі, дзядзька Міша, быў у партызанах. Цётка адна гадавала шасцярых дзетак. Вечарам 3 мая 1943 года сусед прынёс цётцы Вікці паведамленне з Навасёлак, што сваяк просіць дапамогі. Цётка павінна накіраваць аднаго са старэйшых хлапчукоў на адзін дзень папасвіць карову. Пытанне абмяркоўвалі на сямейным савеце, будзе весялей, калі пойдуць двое. Адольфіку каля дзесяці, а Геніку восем. Самыя пастушкі. Але цётка Вікця павінна сама даставіць хлапчукоў і перадаць з рук у рукі сваяку "рабочую сілу". Так і зрабілі.

На досвітку 4 мая маці адвяла хлапчукоў па прызначэнні. Яна спяшаецца. Ей трэба паспець да таго моманту, пакуль малыя прачнуцца. Іх жа трэба будзе памыць, апрануць, пакарміць.

Але што гэта? На ўскрайку лесу, перад самым яе носам, з’явіўся ўзброены фашыст. Лязнуўшы затворам, спыніў цётку Вікцю і, упёршыся дулам у грудзі, не дазволіў ёй далей рушыць. Штосьці тлумачыў па-свойму. Але цётка Вікця нічога не можа зразумець і намагаецца растлумачыць, што ёй трэба ў вёску, што там яе малыя чацвёра дзетак. Але салдат усё адно яе не прапускае, бясконца паўтараючы толькі два словы "Кіндэр капут".

Колькі часу гэта працягвалася, цётка Вікця ўжо не памятала. Яна разумела і душой адчувала толькі адно, што здарылася штосьці страшнае.

У нейкі момант затрашчэў матор грузавіка. Немец штурхануў цётку у лес далей ад дарогі, а сам вярнуўся назад і сеў у пад’ехаўшы грузавік з іншымі немцамі. Калі цётка Вікця выйшла з лесу на брыгідаўскае поле, яна на нейкі момант страціла прытомнасць. Яе вёска ўся дагарала разам з жыхарамі і яе чатырма маленькімі дзеткамі.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Працяг будзе.**

### Спіс загінулых дварчан:

Войтус Сцяпан, 19 год
Войтус Рыгор
Кратовіч Міхаіл Іосіфавіч
Кратовіч Уладзімір, 20 год, забілі паліцаі
Кратовіч Аляксей, 16 год
Кратовіч Іосіф Васілевіч – забіла паліцыя ў Раёўцы
Папковіч Міхаіл Канстанцінавіч, 21 год
Папковіч Яўген (Генадзь), 20 год, узарваўся на міне
Папковіч Сяргей, 19 год, забілі немцы ў 44-м
Швед Кузьма, 40 год
Швед Пётра, 41 год
Швед Уладзімір Адамавіч

КАЛЯНДАР

### 11 САКАВІКА

**95 гадоў** з дня нараджэння **Міколы Гамолкі** (1922 – 1992), беларускага пісьменніка, перакладчыка, драматурга. Працаваў пераважна ў жанры прозы – раман "Шосты акіян", зборнік апавяданняў "Шлях адкрыты", інш. Пісаў і вершы, некаторыя пакладзены на музыку. Напісаў п’есу "Бітва ў космасе" (пастаўленая ў 1963).

**190 гадоў** з дня нараджэння **Каятана Крашэўскага** (1827 – 1896), беларуска-польскага пісьменніка, кампазітара, астранома-аматара. Аўтар гістарычных аповесцей, абразкоў і мемуараў, падзеі якіх адбываюцца пераважна на Беларусі, таксама камедый, вершаў, гавэндаў. Пісаў музыку: канцэрты, санаты, мініяцюры для фартэпіяна. Меў бібліятэку з 10 тысяч тамоў, у т.л. зборы Сапегаў.

**130 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Гаруна** (сапр. Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі) (1887 – 1920), беларускага пісьменніка, драматурга, публіцыста, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху.

### 13 САКАВІКА

**1797 год.** 220 гадоў назад памёр Юзаф Пац, вайсковы дзеяч ВКЛ, удзельнік паўстання 1794 года. "Дзякуючы працы навуковых супрацоўнікаў вілейскага музея вядома, што род Пацаў належаў да 16 багацейшых магнацкіх родаў ВКЛ. Да Пацаў Вілейкай (Старым Курганцам) валодалі Радзівілы, Нарушэвічы, Сапегі і іншыя.

Ад другой паловы 17 стагоддзя Вілейскімі старостамі былі толькі Пацы. Апошнім з Пацаў староствам валодаў Юзаф (1736 – 1797), генерал-маёр войска ВКЛ. Старостам ён быў на працягу 38 гадоў, да 1795 года, калі мястэчка Вілейка стала ўласнасцю расійскай казны і павятовым горадам. У 1775 годзе на яго сродкі была пабудавана новая драўляная царква (на сённяшняй плошчы Свабоды, на тым месцы пабудаваная капліччка). У час паўстання Тадэвуша Касцюшкі, у красавіку 1795 года, генерал-ад’ютант Юзаф Пац уваходзіў у склад Найвышэйшай Рады Літоўскай, якая кіравала паўстаннем на Літве. Быў ён нежанаты, не меў нашчадкаў, на ім згасла лінія Пацаў ражанскіх. Родзічам з другой лініі пакінуў радавы маёнтак, палац у Вільні, чатыры мільёны злотых польскіх, а сваё прозвішча – вялікаму каменю-валуну пасярэдзіне ракі Віліі каля Вілейкі", – піша у артыкуле "Камень Лысіна Паца і Юзаф Пац" **Анатоль Капцюг**, архітэктар з Вілейкі.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Збіраюць подпісы ў абарону Курапатаў

**Анлайн-пляцоўка для звароту грамадзян у дзяржаўныя органы і рэалізацыі грамадскіх кампаній zvarot.by збірае подпісы супраць будаўніцтва офіснага цэнтра ў Курапатах.**

У лісце сказана: "Супрацьстаянне лагеру абароны Курапатаў скончанае, аднак гэта не азначае, што на тое ж месца не прыйдзе іншы забудоўца. Каб абараніць гэта месца ад новай будоўлі, яму неабходна надаць статус ахоўнай зоны, што забароніць узвядзенне наземных будынкаў і збудаванняў, якія не адносяцца да Курапацкага некропаля".

Каб пакінуць свой голас, варта запоўніць на сайце абавязковыя палі. Сярод іх прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас, электронную пошту заяўніка. Пасля гэтага націснуць кнопку "Адправіць".

Калектыўны зварот будзе накіраваны ў Міністэрства культуры 13 сакавіка.

Ён складзены ў адпаведнасці з патрабаваннямі закона "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" і павінны разглядацца дзяржаўнымі органамі.

Адказ з Міністэрства культуры павінны прыйсці на пазначаны ў калектыўным звароце адрас электроннай пошты першага ў спісе заяўніка або можа быць апублікаваны на сайце дзяржаўнага органа праз 15 дзён з моманту рэгістрацыі звароту.

На 7 сакавіка пад зваротам падпісаліся 92 чалавекі з 500.

Нагадаем, што жыхары нашага рэгіёна, віляйчане **Аляксей Сюдак**, **Максім Ціханаў** і **Аляксей Пасынкаў**, сталі таксама адным з абаронцаў Курапатаў. Мужчыны ўпэўненыя, што гэта абавязак кожнага беларуса – бараніць сваё, захоўваць святыя для народа мясціны, дзе пахаваныя яго героі.

**Паводле zvarot.by.**

## Гукаць вясну ў Вязынцы будуць выступленнем са свісцёлкамі і фотазонай з птушкамі

**Мерапрыемства пройдзе ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Вязынцы 26 сакавіка. Пачатак а 13-й гадзіне.**

Традыцыйна ўдзельнікаў чакаюць гукальныя песні, веснавыя карагоды, гульні і забавы, традыцыйная музыка і танцы, кірмаш. Будзе працаваць кухня, дзе можна будзе падмацавацца бліцамі, гарбатай і іншым прысмакамі.

– Сёлета мы плануем зрабіць фотазону на птушыную тэматыку, – расказвае арганізатар свята **Ганна Сілівончык**. – Упершыню ў свяце прыме ўдзел Сямейная студыя **Наталлі Сухой**, якая зладзіць выступленне са свісцёлкамі, правядзе майстар-клас. Мяркуем, што будуць гурты "Горынь", "Мярэжа", "Дайнава", "Варган", клуб традыцыйнага танца "Сіта".

Захапіце народныя строі і станоўчы настрой. Станавіцеся не гледачамі, а ўдзельнікамі. Толькі так можна адчуць і зразумець традыцыі, заклікаюць арганізатары.

За падрабязнасцямі сачыце на сайце Студэнцкага этнаграфічнага таварыства.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

Арганізатары мерапрыемства заклікаюць станавіцца не гледачамі, а ўдзельнікамі, каб адчуць сапраўдны дух народных традыцый. Вязынка 2016.

### Маладзечаншчына ў 2016 годзе


рэкордная ўраджайнасць цукровых буракоў


больш за 50 000 квадратных метраў жылля


больш за 140 новых відаў прадукцыі



найлепшая ў вобласці міліцыя


8 аўтамабіляў "хуткай дапамогі"


найлепшы вынік у вобласці па алімпіядзе


зніжэнне і смяротнасці, і нараджальнасці


баксёр Дзмітры Асанаў стаў заслужаным майстрам спорту

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

# У Маладзечне слаба працавалі толькі з нараджальнасцю

## Аляксандр Яхнавец распавёў пра вынікі 2016 года

МАЛАДЗЕЧНА

**Найлепшая міліцыя і найбольш алімпіяднікаў у вобласці, новыя машыны "хуткай дапамогі" і багатыя культурныя падзеі.**

Чым адзначылася Маладзечаншчына летась, распавёў старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** на ўрачыстым узнагароджанні перадавікоў раёна па выніках працы за мінулы год у пятніцу, 3 сакавіка.

Тэзісы з даклада акрэсліваюць адметнасць Маладзечанскага раёна.

### 140 новых відаў прадукцыі

Старшыня райвыканкама ацэньвае Маладзечаншчыну як самадастатковы, развіты, індустрыяльны і сельскагаспадарчы рэгіён. 2016 год характарызуе адносна стабільным функцыянаваннем эканомікі.

Аснову прамысловасці раёна складаюць 40 прадпрыемстваў, дзе задзейнічана больш за 12 тысяч чалавек. Выраб вытворчай прадукцыі ў фактычных цэнах вырас на 35% да ўзроўню 2015 года і склаў 721 мільён рублёў.

Летась асвоілі больш за 140 новых відаў прадукцыі: новыя віды малочнай і мясной, хлебабулачнай і кандытарскай, мэблі, парашковай металургіі, электроннай прамысловасці і канцылярскіх тавараў.

**Сярод паспяховых прадпрыемстваў адзначылі Мінскі мэблевы цэнтр, Маладзечанскі хлебазавод, Радашкавіцкі керамічны завод.**

Малы і сярэдні бізнес складае больш за пяць тысяч суб'ектаў. Ад гэтага сектара ў бюджэт раёна паступіла 59 мільёнаў рублёў, ці 35% ад усіх паступленняў.

### Рамантаваць пад'езды дапамаглі жыхары

Надвор'е не дазволіла летась атрымаць высокі ўраджай збожжа і зернебабовых культур, хаця пастаўку збожжа на дзяржаўныя патрэбы выканалі ў поўным аб'ёме, забяспечылі насельніцтва. Цукровых буракоў атрымалі рэкордную для раёна ўраджайнасць – 511 ц/г.

Прадпрыемствы будаўнічай галіны мелі цяжкасці – недахоп сродкаў для выканання праграм. У прыватнасці, фінансаванне аб'ектаў інжынерна-транспартнай інфраструктуры было недастатковым.

**План па ўзвядзенні жылля выканалі на 119%, а гэта больш за 50 тысяч квадратных метраў.**

– Канешне, для нашага рэгіёна гэта лічба сярэдняя, – дадаў Яхнавец. – Наша лічба – 100 тысяч. Мяркую, мы яе дасягнем.

У Радашкавічах адкрылі кацельню, у якой эканомія рэсурсаў склала да 30%. 171 пад'езд адрамантавалі пры суфінансаванні жыхароў.

За працу асабліва адзначылі кіраўнікоў "Камунальніка" **Мікалая Наздрына-Платніцкага** і "Маладзечанскіх электрасетак" **Сяргея Сарычава**.

### Набылі восем машын "хуткай дапамогі"

У 2016 годзе 55 выпускнікоў атрымалі медалі, 10 стобальнікаў на ЦТ, 14 пераможцаў заключнага этапа рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах – і гэта найлепшы вынік па вобласці.

Настаўніца хіміі гімназіі №7 **Наталля Пашчук** за высокія вынікі ўзнагароджаная медалём "За працоўныя заслугі".

Баксёр **Дзмітры Асанаў** у снежні атрымаў званне заслужанага майстра спорту.

Калектыў СШ №14 стаў пераможцам абласнога конкурсу за дасягненне высокіх паказчыкаў у развіцці адукацыі ў намінацыі "Найлепшая ўстанова адукацыі ў гарадской мясцовасці".

Школа-інтэрнат №2 для дзяцей з парушэннем зроку ўзнагароджаная граматай Мінадукацыі як найлепшая ўстанова спецыяльнай адукацыі.

Цэнтральная раённая бальніца набыла абсталяванне, у тым ліку восем спецыялізаваных аўтамабіляў "хуткай дапамогі", адзін рэанімабіль для перанатальнага цэнтра і чатыры легкавых аўто для ўчастковых. Загадчыка хірургічнага аддзялення бальніцы №1 **Аляксандра Галавача** ўзнагародзілі Значком выдатніка аховы здароўя.

Калектыў Палаца культуры Маладзечна стаў пераможцам абласнога конкурсу ў намінацыі "Стварэнне ўмоў для ўсебаковага развіцця моладзі".

Маладзечанскі РАУС прызнаны найлепшым у вобласці.

Летась было зніжэнне агульнай смяротнасці сярод насельніцтва, у тым ліку працаздольнага ўзроўню са станоўчым натуральным прыростам насельніцтва. Але адзначанае і зніжэнне нараджальнасці.

– У гэтым плане мы слаба з вамі працуем, – пажартаваў старшыня райвыканкама.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Тры крокі, каб паменшыць колькасць смецця

**Экалагічная канцэпцыя “нуль адходаў” (англ. – zero waste) набірае папулярнасць ва ўсім свеце, у тым ліку ў Беларусі. Вядома, што сучасны чалавек не зможа паўнавартасна жыць, увогуле не пакідаючы пасля сябе смецця. Але ж паменшыць яго колькасць – у нашых сілах.**




Як гэта зрабіць без кардынальных пераменаў у паўсядзённым жыцці, “Рэгіянальнай газеце” расказала **Марыя Сума**, супрацоўніца праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

### Купляйце з розумам

Якія рэчы трапляюць у смецце? Зламаныя і тыя, якія аказаліся непатрэбнымі. Таму добра абдуманыя пакупкі не толькі зменшаць колькасць набытага, але і зэканомяць грошы.

– Перад кожнай пакупкай задавайце сабе пытанне: ці сапраўды мне гэта трэба? Як доўга рэч будзе мне служыць? – рэкамендуе эксперт. – Адмоўцеся ад аднаразовых рэчаў – брытваў, пластыкавага посуду, ручак, у якіх не змяняецца стрыжань, – на карысць шматразовых.

**Цяпер у Беларусі на перапрацоўку ідзе 15% смецця. Астатняе накіроўваецца на звалкі.**

– Гэта добры паказчык з улікам таго, што ў 2005 годзе лічба была ледзь не ўдвая меншая, – каментуе Марыя Сума. – Але нават пры добрасумленным сартаванні ўсяго смецця і наяўнасці неабходных станцый сартавання і перапрацоўкі гэтая лічба ў Беларусі не зможа дасягнуць паказчыка вышэй за 27%.

Каля 30% смецця на звалках – гэта змешаныя адходы і арганіка, з якой у Беларусі пакуль не прыдумалі, што рабіць. Эколагі не падтрымліваюць прапановы па спальванні: у агонь могуць патрапіць небяспечныя рэчывы, напрыклад, лакі і фарбы, якія пры гарэнні забруджваюць паветра атрутнымі рэчывамі. Альтэрнатыўныя варыянты пакуль не абмяркоўваюцца.

### Выбірайце тыя матэрыялы, якія можна перапрацаваць

Важна ведаць, якія рэчы з вашай сметніцы пойдуць на звалку, а якія – на перапрацоўку. І зрабіць так, каб смецце другога віду пераважала.

– Напрыклад, набываючы цукар, лепей выбраць фасоўку ў папяровых, а не пластыкавых пакетах, – кажа Марыя Сума. – А мяса набываць не ў белых ці жоўтых латочках, якія не перапрацоўваюцца ў Беларусі, а ў пластыкавых – іх пасля можна пераплавіць.

**Пазбягайце пластыку з пазнакай 3, 6 і 7 у адмысловым трохкутнічку. Гэтыя віды ў Беларусі не перапрацоўваюцца.**

Памятайце, што батарэйкі, бытавую тэхніку, метал ці аўтамабільнае смецце можна здаць у адмысловыя пункты прыёму. Шкло таксама ідзе на перапрацоўку, хоць яго і не сартуюць па колерах, як на Захадзе. Таму рэчы з перапрацаванага шкла атрымліваюцца не такой добрай якасці.

Перапрацоўка макулатуры – таксама не бясконцы цыкл, як нам часта падаецца.

**– Папера можа вытрымаць каля шасці паўторных выкарыстанняў, – кажа Марыя Сума. – Пасля валокны становяцца надта ломкімі і непрыдатнымі для новых рэчаў.**

На думку эксперта, самая лепшая і экалагічная альтэрнатыва – папярэдзіць утварэнне смецця.

### Аддавайце рэчы ў рамонт

Калі ў нас нешта ламаецца, мы часта вырашаем не мучыцца з рамонтам, а проста набыць новую рэч. Рабіць менавіта так нам падказвае і кашалёк: рамонт можа каштаваць нашмат даражэй, чым новая рэч.

Пакуль паводзіны “купляй новае, а не рамантуй” падтрымліваюць дзяржава і вытворцамі, цяжка чакаць памяншэння аб’ёмаў смецця. У Швецыі з гэтай праблемай змагаюцца на дзяржаўным узроўні: ва ўсіх майстэрнях кожны чарговы рамонт абыходзіцца кліенту ўсё танней.

– Цудоўна, калі асобныя людзі стараюцца жыць па прынцыпе “нуль адходаў”, – кажа Марыя Сума. – Але пакуль да гэтага не далучыцца дзяржава, вынікі не будуць відавочнымі. Важна, каб вытворцы былі зацікаўленыя ў выкарыстанні такіх матэрыялаў, якія можна выкарыстоўваць паўторна. І каб тыя вытворцы, якія збіраюць тару на перапрацоўку, мелі субсідыі. Але Беларусь на самым пачатку гэтага шляху.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E- mail: alesia.ptushka@gmail.com

## Як кожны з нас можа павялічыць працэнт перапрацоўкі смецця

1 Набываючы малочныя прадукты, выбірайце тыя, што разліваюцца ў пластыкавыя празрыстыя бутэлькі. ПЭТ, з якога яны зробленыя, пойдзе на перапрацоўку. Кардонныя пакеты “тэтра-пак” насамрэч складаюцца не толькі з кардону, але і слаёў пластыку і металу. У Беларусі “тэтрапакі” не перапрацоўваюцца і выкідваюцца на агульныя сметніцы. Тое ж і з пластыкавымі бутэлькамі белага колеру – з-за кампаненту-фарбавальніка пластык робіцца непрыдатным для перапрацоўкі.

2 Выкідваючы блакноты і сшыткі на спружынах, не паляну́йцеся аддзяліць спружыну: яе выкінуць у пластык, а лісты – у макулатуру. Таксама адрывайце пластыкавыя “акенцы” ад канвертаў і ўпакоўкі.

3 З пластыкавых бутэлек ад пітнога ёгурту здымайце тэрмаэтыкетку, якая ўшчыльную абцягвае бутэльку. Яна зробленая з іншага віду пластыку. Калі вы не здыміце этыкетку, цэлая бутэлька з сартавальнай лініі пойдзе на звалку, нават калі яна зробленая з ПЭТ.

4 Бярыце ў краму палатняную торбу, каб не прыносіць кожны дзень дамоў новыя пластыкавыя пакеты. Не вядзіцеся на “бясплатнасць”. Для вас яны бясплатныя, але на іх вытворчасць былі патрачаныя сродкі, матэрыялы і энергія.

**Ці ведалі вы, што 2-3% сусветнай здабычы нафты ідзе на вытворчасць пластыкавых пакетаў?**

5 На працы не карыстайцеся пластыкавымі ці папяровымі кубачкамі, лепей прынясіце з дому керамічны. Тыя кубачкі, якія мы называем “папяровымі”, унутры пакрытыя пластыкавай плёнкай, каб не прапускаць вадкасць. Іх на перапрацоўку не бяруць.

# Турнір сярод мужчынскіх камандаў зладзілі ў "Надзеі"

ВІЛЕЙКА

**У пятнаццаты раз аматары валейбола сабраліся ў дзіцячым аздараўленчым цэнтры "Надзея" 4 сакавіка.**

Тут зладзілі традыцыйны штогадовы валейбольны турнір сярод мужчынскіх камандаў з прадпрыемстваў і арганізацый Вілейскага раёна.

За прызы цэнтра "Надзея" змагаліся каманды вілейскага водаканала, раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях, вілейскай ЖКГ, энергазбыту, Людвіноўскага, Даўгінаўскага і Ільянскага сельсаветаў. Прымала ўдзел і каманда гаспадароў.

Па словах кіраўніка фізічнага выхавання **Аксаны Альфер**, кожная каманда складалася з шасці чалавек. Чатыры павінны быць супрацоўнікамі прадпрыемства, за якое гуляюць. Астатнія два – не абавязкова. Але яны маюць прапіску або пастаянную працу на тэрыторыі Вілейшчыны. Узрост удзельнікаў не абмяжоўвалі.

– Гэты турнір – практычна аднагодак спартыўнай залы, у якой сёння гуляюць каманды, – расказаў дырэктар цэнтра "Надзея", галоўны арганізатар спаборніцтваў, у мінулым валейбаліст **Вячаслаў Макушынскі.**

Па яго словах, у 2002 годзе здалі спартыўную залу. А ў 2003 годзе зладзілі першы турнір. Доўгі час дырэктар сам гуляў за каманду "Надзея".

За шмат год у калектыве цэнтра "Надзея" сфарміраваліся свае прынцыпы і падыходы да працы, расказаў Вячаслаў Макушынскі. Адзін з галоўных прынцыпаў – імкненне да здаровага ладу жыцця.

Дырэктар цэнтра ўпэўнены, што гэта імкненне трэба прышчэпліваць не толькі дзецям, якія адпачываюць у "Надзеі". Не менш важна гэта і для жыхароў усяго Вілейскага раёна. Таму кожны год у цэнтры ладзяць шэраг спартыўных спаборніцтваў сярод школьнікаў і дарослых жыхароў Вілейскага раёна.

Валейбольны турнір сярод мужчынскіх камандаў Вілейшчыны ў апошнія выхадныя лютага або ў першыя выхадныя сакавіка "Надзея" праводзіць сумесна з Вілейскім райвыканкамам.

– Прыемна, – заўважыў Вячаслаў Макушынскі, – што цікавасць да гэтага віду спорту праз гады не згасае.

Па яго назіраннях, хлопчыкі, якія раней прыязджалі ў "Надзею" разам з бацькамі-валейбалістамі, цяпер самі выступаюць у камандах. Кажа, што за паўтара дзесяцігоддзя на вачах вырасла цэлае пакаленне спартсменаў.

Месцы на сёлетнім турніры размеркаваліся наступным чынам. Першай стала каманда Вілейскай ЖКГ. Пераможцы атрымалі пераходны кубак, дыплом ад Вілейскага райвыканкама і грашовую прэмію ад "Надзеі".

На другім месцы – супрацоўнікі энергазбыту, на трэцім – прадстаўнікі Людвіноўскага сельскага Савета. Ім уручылі дыпломы і грашовыя прэміі.

Гаспадары залы, каманда "Надзеі", занялі чацвертае месца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Падчас спаборніцтваў у "Надзеі".



Фота hcdinamo.by

Пастраенне каманды "Дынама" ў маладзечанскім Лядовым палацы.

# Хакеісты з Маладзечна не адолелі салігорцаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Завяршыліся чвэрцьфінальныя серыі плэй-оф чэмпіянату Беларусі. Пуцёўкі ў наступны раўнд заваявалі каманды, якія па выніках рэгулярнага сезона мелі лепшыя вынікі ў турнірнай табліцы. Тычыцца гэта і салігорскага "Шахцёра", саперніка маладзечанскага "Дынама".**

Адзначым, што мінскае абласное дэрбі стала самым упартым сярод астатніх. Каманды правялі паміж сабою пяць сустрэч. Усе яны завяршыліся з розніцай толькі ў адну шайбу. Двойчы арбітры фіксавалі нічыю за асноўны час і прызначалі дадатковы перыяд.

У сваіх пасляматчавых каментарах галоўны трэнер салігорцаў **Уладзімір Цыплакоў** адзначаў, што сустракаюцца дзве роўныя каманды і ён вельмі рады, што серыя праходзіць так цікава. Нагадаем, гэты спецыяліст падчас гульнявой кар'еры выступаў за клубы Нацыянальнай хакейнай лігі, з'яўляўся адным з лідараў беларускай зборнай.

Кіраўнік дынамаўскага калектыву **Дзмітры Краўчанка** наракаў на падапечных, што яны занадта доўга думаюць над сваімі дзеяннямі ў той час, калі проста трэба "заплюшчваць" вочы і кідаць шайбу па чужых варотах.

**Салігорск. 25 лютага. 1080 гледачоў.**
Шахцёр-Дынама 1:2 (1:1, авертайм – 0:1).
Галы: **Дзямкоў** (44); **Махароў** (50), **Грынь** (63).

**Салігорск. 26 лютага. 1010 гледачоў.**
Шахцёр-Дынама 2:1.
Галы: **Відгрэн** (19), **Дзямкоў** (23); **Лапачук** (34-бол.).

**Маладзечна. 1 сакавіка. 1050 гледачоў.**
Дынама-Шахцёр 1:2 (1:1, авертайм – 0:1).
Галы: **Сёмачкін** (18-бол.); **Камбовіч** (30-бол.), **Андрушчанка** (78-бол.).

**Маладзечна. 2 сакавіка. 900 гледачоў.**
Дынама-Шахцёр 2:3.
Галы: **Зямлянкін** (28), **Феакцістаў** (59); **Пітуле** (23), **Сушко** (25), **Маліноўскі** (47).

**Салігорск. 4 сакавіка. 1000 гледачоў.**
Шахцёр-Дынама 4:3.
Галы: **Карабанаў** (6), **Ляўша** (36), **Ляўко** (47), **Пітуле** (59); **Васільчук** (6), **Печур** (42), **Дудко** (47).

Маладзечанскія балельшчыкі добра запомняць дамашнія матчы гэтай серыі. У першы дзень вясны каманды змагаліся ледзь ці не чатыры перыяды, пакуль перамогу ўсё ж не вырвалі госці, якія мелі ў тую хвіліну большасць гульцоў на пляцоўцы. Назаўтра гарнякі зачапіліся за перавагу ў дзве шайбы, але намаганнямі нашага лепшага бамбардзіра Мікіты Феакцістава за восем секунд да фінальнага свістка ўдалося скараціць разрыў у ліку. На жаль, укідванне шайбы, якое праводзілася ў цэнтры пляцоўкі, не дазваляла паспець вызначыцца яшчэ раз.

Успомнім вынікі рэгулярнага сезона. Пасля 42 праведзеных тураў верхняя шасцёрка турнірнай табліцы выглядала наступным чынам (гл. табліцу ўнізе).

Лепшымі снайперамі маладзечанскага "Дынама" ў рэгулярным сезоне сталі Мікіта Феакцістаў (46 ачкоў – 13 шайбаў і 33 перадачы), **Ягор Воранаў** (25 ачкоў – 13 шайбаў і 12 перадач), абаронца **Павел Варабей** (24 ачкі – 7 шайбаў і 17 перадач).

Што тычыцца яшчэ якой-небудзь цікавай статыстыкі, то наша каманда заняла ажно трэцяе месца па надзейнасці гульні ў меншасці (86 працэнтаў) і пятае месца па рэалізацыі большасці (16 працэнтаў).


Сяргей ГАЙКОВІЧ.
E-mail: sm2@tut.by

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Нёман, Гродна | 30 | 3 | 4 | 5 | 214-85 | 100 |
| Юнацтва, Мінск | 29 | 3 | 2 | 8 | 185-70 | 95 |
| Гомель | 23 | 5 | 3 | 11 | 144-80 | 82 |
| Шахцёр, Салігорск | 22 | 2 | 3 | 15 | 145-92 | 73 |
| **Дынама, Маладзечна** | **21** | **2** | **3** | **16** | **123-109** | **70** |
| Металург, Жлобін | 17 | 1 | 1 | 23 | 97-137 | 54 |

**Заўвага.** Пасля назваў камандаў указаныя перамогі ў асноўны час (коштам у тры ачкі), перамогі ў авертаймах ці па булітах (коштам у два ачкі), паражэнні ў авертаймах ці па булітах (коштам у адно ачко), паражэнні ў асноўны час, закінутыя і прапушчаныя шайбы, сума ачкоў.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. У грэчаскай міфалогіі – бажаства ў выглядзе жанчыны, што адлюстроўвае сілы прыроды.
3. Чалавек, які ведае нямногае пра многае і многае пра нямногае.
7. У гэтым горадзе адчынілі першы кінатэатр – у 1895 годзе.
8. Дзеянне як вынік чаго-небудзь.
10. Рухавік гандлю.
12. Дбайна, старанна рабіць штосьці.
14. Навучанне грамаце непісьменных дарослых і падлеткаў.
17. У выпадку смерці супрацоўніка гэтай кампаніі яго другая палавіна будзе атрымліваць чэк на 50% ад яго заробку штогод цягам наступных 10 год.
18. У царскай Расіі – выхаванец ваеннага вучылішча.
19. Пярэдняя галоўная частка будынка.
20. Зяць, прыняты ў сям’ю жонкі, які жыве ў доме жонкі.
23. Балетныя туфлі з цвёрдым носікам.
26. Маладыя спартсмены.
27. Сталіца Турцыі.
30. Дэкаратыўны куст з белымі пахучымі кветкамі.
31. Ярка-чырвоны.
32. Галіна народнага мастацтва, у якой працуюць мастачкі Чырвонцавы з Маладзечна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Аўтар цытаты “Мы цярпець не можам людзей з тымі ж недахопамі, што ў нас”.
4. Дробныя свінцовыя шарыкі для стральбы з паляўнічай стрэльбы.
5. Няўдалы варыянт гэтай эканамічнай аперацыі – шыла на мыла.
6. На гэтай карціне – выява мужчыны без кашулі. Мяркуецца, што ён распрануўся, каб ніхто не змог абвінаваць у нячэснай гульні ў карты.
8. Дзяржаўная забарона ўвозу ці вывазу замежных тавараў ці каштоўнасцяў.
9. Вялікі шырокі нож.
11. Падчас яго праўлення існавала смяротнае пакаранне для тых, хто спраўляў патрэбу ў вадаём. Вада цанілася вышэй за золата.
13. Ручнік з доўгімі махрамі.
15. Навука, якая вывучае рыб.
16. Сканцэнтраванне думак на чымсьці.
21. Праціўнік Англіі ў самай кароткай вайне, якая доўжылася 38 хвілін.
22. Імя чалавека, які першым высадзіўся на Месяц.
24. Населены пункт у Ашмянскім раёне з касцёлам, які з’яўляецца выдатным узорам беларускага барока.
25. З галінастымі рагамі.
28. Метал або сплаў для паяння.
29. Прыбор для награвання і прыгатавання ежы з помпай, якая падае гаручае ў гарэлку.
30. Народ цюркскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Саха.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ №9**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Варняны. 5. Слава. 8. Холад. 9. Ёлка. 10. Русалачка. 11. Пельмені. 12. Фаліянт. 15. Блін. 16. Соль. 18. Сцяна. 20. Караткевіч. 23. Нота. 25. Шлагбаум. 26. Старт. 27. Штатыў. 32. Кашпо.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Занатаваць. 3. Іржа. 4. Шалік. 6. Геракл. 7. Мядзведзь. 12. Фуксія. 13. Падсочка. 14. Паланік. 17. Лабірынт. 19. Нагайка. 21. Універсітэт. 22. Разявака. 24. Тур.

## ГАРАСКОП 10-16 САКАВІКА



**Авен.** Цяпер пастарайцеся максімальна вызваліць сябе ад усялякіх спраў і адпачыць, бо хутка вас чакае новы парыў энергіі і дзейнасці, для чаго запатрабуюцца вашы сілы.



**Цялец.** Вы становіцеся празмерна эмацыйныя і шчадралюбныя. Вядома, калі ёсць каму прысвяціць гэтыя свае парывы, то сітуацыя для вас складваецца спрыяльна. Але калі вы ў пошуку, то не варта ісці на повадзе сваіх мінутных пачуццяў і спрабаваць завесці знаёмства з першым сустрэчным.



**Блізняты.** У вас накапілася шмат розных спраў, задач, непрыемнасцяў і іншага грузу як фізічнага, так і псіхалагічнага, ад якога трэба пазбавіцца. Дайце сабе разгрузку, скіньце ўсё старое і што вам не па сілах, што стрымлівае і перашкаджае. Калі вы не зробіце гэта самі, то працэс можа прайсці менш прыемна.



**Рак.** У вашым жыцці, думках накапілася шмат непатрэбнага, што не дазваляе вам рухацца далей, развівацца, удасканальвацца. Каб не аказацца ў стане застою, вам трэба сабрацца з сіламі і думкамі і пазбавіцца ад усяго, што вас гняце. Вы адразу адчуеце прыліў свежых сіл, што дазволіць пачаць сваё жыццё калі не занава, то з новага раздзела.



**Леў.** Будзьце гатовыя да новых пачуццяў і ўражанняў. У ваша жыццё зусім нечакана можа ўварвацца новы чалавек ці падзея, якая прынясе нямала перамен у ваш эмацыйны стан – радасці, добрага настрою.



**Дзева.** Калі ад вас запатрабуюцца сілы і сур’ёзнае напружанне, то крыніцу энергіі шукайце не ў знешніх атрыбутах і іншых людзях, а ў сабе. Галоўнае, зразумець, для чаго гэта вам трэба, што гэта вам дасць, настроіцца на патрэбны лад.



**Шалі.** Ваша сэрца заняволенае і не дае магчымасці прайсці ў яго новым пачуццям. Вы ніяк не прымаеце падзеі і зносіны з дапамогай эмацыйнай сваёй часткі. А такі падыход ніяк не садзейнічае развіццю і паляпшэнню вашага ўласнага жыцця.



**Скарпіён.** Значна палепшацца адносіны ўнутры сям’і і з блізкімі сябрамі. Вы можаце разлічваць на іх дапамогу, калі вам што спатрэбіцца. У вас цяпер ёсць магчымасць падвесці свае адносіны да нейкага новага і вельмі сур’ёзнага кроку, што зробіць іх больш устойлівымі і трывалымі.



**Стралец.** У вас нядрэнна ідуць справы па доме. Вам ўдасца зрабіць яго больш утульным і прывабным.



**Казярог.** Вам “свеціць” выключная ўдача ў справах, фінансах, каханні. Вось і пастарайцеся распарадзіцца ёй разумна.



**Вадалей.** Калі ў вашым жыцці да гэтага былі спрэчныя сітуацыі ці канфлікты, то сітуацыя паступова пачынае наладжвацца. Негатыўны настрой сыходзіць, а на яго месца прыходзіць новае адчуванне свету, сітуацыі, узаемаадносінаў. Можна брацца за новыя справы, будуць паспяховыя любыя пачынанні, звязаныя з матэрыяльнымі пытаннямі, толькі калі яны не з’яўляюцца рызыкоўнымі.



**Рыбы.** Вясенні эмацыйны настрой вас пакуль яшчэ не закрануў, у адрозненне ад іншых прадстаўнікоў задыякальнага кола. Вы будзеце працаваць і дасягаць нават вельмі значных вынікаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | 4 | | | 9 |
| | 6 | 8 | | 9 | 7 | | | 4 |
| 4 | | | | | | 1 | | |
| 9 | 1 | | | | | | | |
| | | 7 | | 3 | | 4 | | |
| | | | | | | | 2 | 7 |
| | | 2 | | | | | | 8 |
| 8 | | | 7 | 5 | | 9 | 6 | |
| 7 | | | 6 | | | | | 2 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## Дашлі эсэ і выйграй смартфон

**"РГ" паўтарае конкурс для школьнікаў, падобны на які праводзіла летась.**

Удзельнічаць у ім могуць вучні школ і гімназій рэгіёна, у якім выходзіць "РГ": Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага, Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага і Маладзечанскага раёнаў.

Вучні могуць даслаць эсэ на скрыню regionnews@rh.by або па пошце на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, "Рэгіянальная газета". На пісьме зрабіце пазнаку "Конкурс эсэ".

Эсэ павінны быць напісаныя на беларускай мове на адну з тэм на выбар: "Як бы я правёў тыдзень на бязлюдным востраве", "Якую рэч трэба вынайсці", "Як я магу зарабіць мільён", "Якім павінна быць першае спатканне", "Дзень, калі я закончу школу" ці "Маё любімае беларускае слова".

У лісце разам з эсэ пазначце:

- імя і прозвішча
- клас і школу
- населены пункт
- нумар тэлефона свой ці бацькоў (дамашні ці мабільны)
- імя, імя па бацьку і прозвішча класнага кіраўніка або настаўніка беларускай мовы і літаратуры (рабочы або мабільны)
- некалькі сказаў пра сябе – захапленні, мары, справы ў школе.

**Паспяшайцеся, апошні дзень прыёму эсэ – 13 сакавіка.**

Усе дасланыя эсэ пройдуць папярэдні адбор рэдакцыі.

Работы з вытрыманымі патрабаваннямі, якія прайшлі адбор, мы размесцім на нашым сайце rh.by. Сярод іх онлайн-галасаваннем чытачоў адбяром працы, якія пройдуць у фінальны этап. Галасаванне пройдзе ад 16 да 20 сакавіка.

Фінал конкурсу правядзём у рэдакцыі. На ім могуць прысутнічаць удзельнікі. Сярод фіналістаў пераможцу вызначыць латарэя. Дату фіналу абвесцім пазней.

Рэдакцыя можа выключыць работу з конкурсу ў выпадках нядобрасумленнасці ўдзельніка.

Жадаем поспеху!

Рэдакцыя
"Рэгіянальнай газеты".

## Раскажы пра свой адпачынак і выйграй фотаапарат

**Летась вы з'ездзілі на мора, у іншую краіну або пакаталіся па Беларусі ці рэгіёне? Вы можаце за гэта яшчэ і падарунак атрымаць!**

Раскажыце, куды і з кім вы ездзілі, чым вас уразіла падарожжа. Што смешнага з вамі адбылося і якія стравы сталі кулінарным адкрыццём? Дайце парады тым, хто сёлета адправіцца ў вандроўку вашым шляхам. Прыкладзіце 2-3 фота, раскажыце, у якi бюджэт можна ўкласціся пры такім адпачынку.

**Дасылайце аповеды на скрыню regionnews@rh.by да 13 сакавіка.**

У тэме ліста абавязкова пазначце "Конкурс пра адпачынак".

У лісце пазначце:

– імя і прозвішча
– населены пункт, у якім жывяце
– мабільны нумар тэлефона
– род заняткаў
– з кім ездзілі
– у які месяц пабывалі падчас падарожжа
– у які бюджэт укалiся і прыкладна як яго размеркавалі.

Рэдакцыя правядзе папярэдні адбор апавяданняў пра адпачынак. Тыя працы, якія мы прымем да конкурсу, будуць размешчаныя на сайце rh.by. Сярод іх галасаваннем чытачы абяруць фіналістаў. Галасаванне будзе працаваць ад 18 да 22 сакавіка.

Затым сярод фіналістаў мы абяром пераможцу праз латарэю. Удзельнікі конкурсу змогуць прысутнічаць на розыгрышы.

Пераможца атрымае фотаапарат, які спатрэбіцца ў далейшых падарожжах. Ён не толькі зафіксуе важныя моманты, але і адразу раздрукуе фота.

Рэдакцыя можа выключыць удзельніка з конкурсу ў выпадках яго нядобрасумленнасці.

Конкурсныя работы чытайце на старонцы 17.

Рэдакцыя
"Рэгіянальнай газеты".

## ТЭМА НУМАРА



Фота Наталлі ТУР.

Начальніца вытворча-тэхналагічнай лабараторыі Вілейскага хлебазавода Таццяна Балаш частуе класічнай "Барысаўчанкай".

# Тарты са скульптурамі і манументамі можам

## Але віляйчане больш любяць класіку

ВІЛЕЙКА

**8 сакавіка – дзень, калі мужчыны галопам бягуць з магазіна кветак у магазін тартоў, каб да падарунка сваёй ненагляднай, сваёй салодзенькай прыкласці і салодкі камплімент.**

У такой справе, вядома, патрэбная дапамога. Як выбраць паміж бісквітным і пясочным, мядовым і фруктовым, з крэмам ці з жэле, суфле ці ёгуртам.

А на вілейскім хлебазаводзе ведаюць, як зрабіць так, каб у тых, хто будзе частавацца іх прадукцыяй, не сапсаваліся фігура і настрой.

Да жаночага свята на прылаўкі магазінаў вілейскі хлебазавод даставіў 22 найменні тартоў і 10-15 найменняў піровжных.

У царства ванілі, арэхаў і вяршковага крэму запрасіла і паказала, як ствараюцца шэдэўры, **Таццяна Балаш**, начальніца вытворча-тэхналагічнай лабараторыі хлебазавода.

Пах ванілі ў кандытарскім цэху, сапраўды, збівае з ног.

Пакуль адна партыя тартоў у духоўках, другую студзяць, змазваюць крэмам і ўпрыгожваюць кандытары.

Кандытарка **Вольга Карпічэнка** выціскае шакаладны крэм на торт "Белая вежа".

– Працы перад 8 сакавіка становіцца, больш, – кажа Таццяна Балаш. – Акрамя тартоў, якія пойдуць на продаж, шмат хто замаўляе торт сваім калегам, у знак падзякі.

Не толькі віляйчане змогуць ацаніць смак тартоў, сёння ж машыны з салодкай прадукцыяй выправяцца ў Смаргонь, Ашмяны, Мядзел, Пухавічы, Мінск.

– Тэрмін прыдатнасці нашых тартоў каля пяці сутак, – расказвае Таццяна Канстанцінаўна, – раней выпускалі з тэрмінам 24 гадзіны, дык наш гандаль наадрэз адмаўляецца прымаць такія на рэалізацыю. Таму даводзіцца выкарыстоўваць кансерванты. Але, прызнаюся па сакрэце, без кансервантаў выпускаем нашы тварожныя і ёгуртныя торцікі.

З рэцэптамі гэтай прадукцыі, аказалася, таксама цэлая эпапея.

Ад таго моманту, калі кандытары прыдумаюць рэцэпт, да таго, як торт трапіць на паліцы магазінаў, адбываецца вось што.

Дзяўчаты-кандытары пякуць торцік па толькі што прыдуманым рэцэпце. Затым гэты торт адпраўляецца ў галаўное прадпрыемства ў Барысаў. Там, кажучы мастацкай мовай, адбіраецца дэгустацыйная камісія, п'е чай, смакуе торт.

Калі камісіі торт спадабаўся, яны тэлефануюць у Вілейку. Тут запісваюць рэцэптуру, тэхналогію вырабу і адпраўляюць у такую ўстанову, якая называецца "Белтэхнахлеб". Калі там рэцэпт і тэхналогію зацвердзілі, зноў тэлефануюць у Вілейку.

І мясцоваму хлебазаводу застаецца ўсяго нічога – задэклараваць рэцэпт торта ў Дзяржстандарце.

А потым ужо "Фруктовы капеж", "Таццянін дзень", "Арыстакрат", "Чароўны водар", "Першацвет" займаюць сваё месца на вітрынах магазінаў.

– З назвамі таксама цэлая гісторыя, – працягвае Таццяна. – Мы заўсёды стараемся, каб па назве торта пакупнік змог здагадацца, што ў яго ўнутры.

Назвы таксама прыдумваюць на заводзе.

– Выключэнне, вядома, класічныя тарты: "Кіеўскі", "Ленінградскі", "Барысаўчанка".

На заводзе кажуць, што класічныя па-ранейшаму самыя папулярныя ў пакупнікоў.

– Таму што смак дзяцінства, – прызнаюцца кандытары.

– Мы можам рабіць тарты са скульптурамі і манументамі, па эскізах самых пакупнікоў. Нашы кандытары ўмеюць працаваць з карамеллю і шакаладам. Аднак часцей за ўсё замаўляюць тарты па класічных рэцэптах са звыклымі ўсім ружачкамі і лісточкамі з крэму. І просяць напісаць шакаладам пажаданне шчасця і кахання.

**А яшчэ дзяўчаты, што працуюць у кандытарскім цэху, прызналіся ў тым, што яны патрыёты сваёй прадукцыі. І 8 сакавіка таксама сустрэнуць з тортам, які сёння яшчэ толькі-толькі адправіўся ў духоўку.**

P.S. Здымаю з сябе белы халат, які мне выдалі перад тым, як пусціць у цэх.

– А цяпер – дэгустацыя. Сёння частуем класічнай "Барысаўчанкай".



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

# Інкубатар, гранулятар, ноўтбук:

## што трэба для развіцця вёсак у Крывасельскім сельсавеце

ВІЛЕЙКА

**Летась мы пісалі пра праект "Пашырэнне эканамічных магчымасцяў для сельскай Беларусі", які ладзяць у вёсках Крывасельскага сельсавета за грошы арганізацыі "Новая Еўразія".**

На той момант ва ўдзельнікаў праекта было шмат планаў. Што змянілася цяпер?

– Пэўныя зрухі ўжо ёсць. Можна сказаць, лёд крануўся, – распавядае бухгалтар сельсавета і бухгалтар праекта **Ганна Церах**.

Набылі ноўтбук, фотаапарат, праектар і экран да яго. Але і засталося шмат: авечкі, трусы, трактар з касілкай і прычэпам, інкубатар, гранулятар і шмат усяго для адкрыцця ў Крывасельскім сельсавеце сялянска-фермерскага кааператыва.

Актыўная дзейнасць па развіцці вёсак сельсавета пачалася летась. Тады з дапамогай вілейскага таварыства "ЗОВіК" і яго кіраўніка **Таццяны Цітуленкі** сельсавет вайграў грант ад установы "Новая Еўразія" на развіццё ўласнай тэрыторыі.

**Сума гранта – 18 тысяч еўра. Праўда, карыстацца гэтымі грашыма ўдзельнікі праекта пачалі нядаўна, са студзеня 2017 года. Цяпер, прызнаюцца ў сельсавеце, тут наганяюць страчаны час.**

Фота mpravda.by

Пётр Церах у кааператыве будзе займацца трусагадоўляй.

### У сельскай гаспадарцы патрэбны ноўтбук

Склалі спіс тавараў, якія трэба набыць, і бюджэт. Спіс зацвердзілі ў Міністэрстве эканомікі.

Навошта ў сельскай гаспадарцы праектар і ноўтбук?

– Гэтыя рэчы, перш за ўсё, для навучання, – кажа Ганна Церах.

Аказваецца, навучанне ў рамках праекта займае далёка не апошняе месца. Днямі бухгалтар, менеджар **Яўген Івашкевіч** і члены ініцыятыўнай групы збіраюцца на семінар у Мінск. Там яны атрымаюць веды па стварэнні сялянска-фермерскага кааператыва.

Шмат семінараў было і да гэтага часу. Вучылі экалагічнаму земляробству, жывёлагадоўлі, прадпрымальніцкай дзейнасці. На самы першы семінар з удзелам таварыства "ЗОВіК" прыйшло шмат вяскоўцаў, прыгадвае Ганна Церах. Цяпер іх менш, але засталіся самыя ініцыятыўныя.

**Пётр Церах** гадуе трусоў. Ён зацікаўлены ў далейшым развіцці ўласнай гаспадаркі. У бюджэт праекта заклалі набыццё маладняку трусоў і гранулятара для прыгатавання корму. Трусінае мяса мае попыт у вёсцы і за яе межамі.

**Сяргей Вяжэвіч** разводзіць авечак. Са стварэннем кааператыва для яго набудуць новых жывёл. Таксама запланавалі машынку для стрыжкі авечак.

**Мікалай Шкет**, які гадуе птушак, атрымае гранулятар.

Атрымліваецца, у кааператыве будуць працаваць не "навічкі", а людзі, якія добра ведаюць сваю справу. Бо працавалі на ўласных гаспадарках яшчэ задоўга да праекта.

### Набудзем міні-трактар за 4 тысячы 900 еўра

Сельсавет ужо аб'явіў своеасаблівы тэндар на выбар пастаўшчыка міні-трактара. Пакуль прапаноў ад пастаўшчыкоў не атрымалі. Але наперадзе яшчэ два тыдні. На трактар змогуць выдзеліць да 4 900 еўра.

Да трактара набудуць касілку і прычэп. Касілку гатовыя набыць за 1100 еўра, прычэп – за 900. Усім гэтым будуць карыстацца для добраўпарадкавання вёсак сельсавета і для апрацоўкі зямлі на гаспадарках кааператыва.

Свае ўмовы і тэхнічныя характарыстыкі трактара супрацоўнікі сельскага Савета выклалі на сайце Вілейскага райвыканкама.

Члены ініцыятыўнай групы – актыўныя людзі сярэдняга ўзросту. Акрамя ўласных гаспадарак, некаторыя з іх працуюць на дзяржаўнай рабоце.

Ужо замовілі і аплацілі інфармацыйныя стэнд і білборд. Яго ўстаноўку ўзгодняць з патрэбнымі службамі, і ў сакавіку, па словах Ганны Церах, білборд з'явіцца дзе-небудзь на ўездзе на тэрыторыю сельскага Савета.

На білбордзе пазначаць 44 вёскі сельсавета і цікавыя мясціны: помнікі, касцёлы, цэрквы, цэнтры гаспадарак. На інфармацыйным стэндзе размесцяць звесткі пра населеныя пункты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.03 | 9.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8955 | **1,9023** |
| Еўра | 1,9979 | **2,0123** |
| Злоты, 10 | 4,6475 | **4,6644** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2472 | **3,2698** |
| Грыўня, 100 | 6,9752 | **7,0547** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 1.03 і 7.03** | | |
| Еўра | 1.9700/2.0000 | **2.0000/2.0250** |
| Долар ЗША | 1.8750/1.9000 | **1.8900/1.9100** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 1.03 | 7.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,93 | **15,99** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | **3,35** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,16** |
| Селядзец, 1 кг | 5,38 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **13,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,30 | **2,30** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | **0,75** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,40 | **1,40** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,99** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,39** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,49 | **1,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | **3,49** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,85 | **2,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,00 | **2,95** |
| Гранаты, 1 кг | 3,60 | **3,49** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,45** |
| Памідоры, 1 кг | 3,00 | **2,95** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **4,95** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **6,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,75 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **7,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,19 | **2,49** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,39** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,69 | **1,45** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,45** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## У двары ў Вілейцы "Сітраэн" наехаў на жанчыну

**ВІЛЕЙКА**

Каля 13:40 28 лютага 44-гадовы жыхар Гродзенскай вобласці на аўтамабілі "Сітраэн-Джампер" ехаў заднім ходам па дваровай тэрыторыі дома №15 па вуліцы Гагарына ў Вілейцы. Машына наехала на мясцовую жыхарку, пенсіянерку.

У выніку ДТЗ 72-гадовая жанчына шпіталізаваная з дыягназам: "удар галавы, ранкі каленяў, ілба, носа, пералом прамянёвай косці, расцяжэнне звязак левага галёнкаступнёвага сустава". Па гэтым факце праводзіцца праверка.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## У прафесійнае свята міліцыянеры затрымалі ў Вілейцы двух голых хлопцаў

**ВІЛЕЙКА**

Вілейка. Позні вечар. Па вуліцы ідуць два хлопцы з дзяўчатамі. Здаецца, звычайная карцінка. Але! Хлопцы абсалютна голыя.

А пачалося ўсё са спрэчкі на "слабо". Два нецвярозыя хлопцы разам з дзяўчатамі гулялі позна ўвечары па Вілейцы. Яны паспрачаліся, што змогуць распрануцца дагала і ў такім выглядзе прайсціся па горадзе. Што і зрабілі.

Так ішлі, ішлі... і "ўпёрліся" ў нарад міліцыі.

Хлопцаў затрымалі. Ім пагражае адміністрацыйная або крымінальная адказнасць.

Пра гэта расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

## Даганяла мужа і ўрэзалася ў плот: начная аварыя ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА**

Амаль у чатыры гадзіны раніцы жыхары дома па вуліцы Савецкай у Вілейцы прачнуліся ад моцнага "ба-бах!".

Выглянуўшы ў акно, убачылі, што ў плот ля іх дома ўрэзалася машына. Выклікалі міліцыю.

За рулём была жанчына без правоў. Тэхагляду ў машыны таксама не было.

Жанчына расказала, што яна пасварылася з мужам і той уцёк з дому.

Жонка захацела яго вярнуць, села ў машыну, не справілася з кіраваннем і ўехала ў плот.

Пра гэта расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС Кацярына Млечка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## Завяршылі расследаванне справы аб аварыі з двума загінулымі

**ВАЛОЖЫН**

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы аб дарожна-транспартным здарэнні з двума загінулымі, паведамляе СК.

Устаноўлена, што 28 лістапада 2016 года 51-гадовая жыхарка Гродзенскай вобласці, кіруючы ўласным аўтамабілем "Шэўрале-Экспрэс", рухалася з хуткасцю каля 75 км/г у напрамку Ашмянаў. На 64 кіламетры аўтадарогі Мінск-Ашмяны-мяжа Літоўскай Рэспублікі, паблізу вёскі Семернікі Валожынскага раёна, сутыкнулася з аўтамабілем "Рэно", які рухаўся ў сустрэчным накірунку.

У выніку ДТЗ 54-гадовы мужчына-кіроўца і 53-гадовая пасажырка аўтамабіля "Рэно" загінулі на месцы здарэння.

На падставе сабраных падчас папярэдняга расследавання дадзеных, сярод якіх канфіскаваныя пры аглядзе месца здарэння матэрыяльныя сляды і аб'екты, вынікі праведзеных экспертыз і следчых эксперыментаў, устаноўлена, што кіроўца "Шэўрале-Экспрэс" у выніку неасцярожных дзеянняў ужыла няправільныя прыёмы кіравання аўтамабілем.

Жанчына парушыла правілы дарожнага руху і выехала на сустрэчную паласу, стварыўшы тым самым перашкоду "Рэно", які рухаўся ў сустрэчным накірунку.

Ім кіраваў жыхар Смаргоні, які не меў тэхнічнай магчымасці прадухіліць сутыкненне.

Дзеянні кіроўцы "Шэўрале-Экспрэс" кваліфікаваны следствам як "Парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць двух чалавек".

З улікам змякчальных абставінаў абвінавачаная знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе. Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Таццяна БЕЛАНОГ, афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.**

# Помсцячы за пабітае акно, параніла нажом

**АСТРАВЕЦ**

**У снежні мінулага года на Астравеччыне 29-гадовая жанчына ў час сваркі парэзала свайго знаёмага. Па яе словах, гэта была помста за пабітае акно ў яе хаце.**



Пакаранне за раненне жанчына палічыла вельмі строгім.

Жанчына прызнала сябе вінаватай і расказала, што дрэнныя адносіны са знаёмым Максімам Ш. склаліся з-за таго, што ён пабіў шыбу ў акне ў яе дома.

Неяк увечары Максім са сваімі сябрамі былі ў гасцях у жанчыны, выпівалі. Пасля ў доме пачуўся звон пабітага шкла. Аказалася, Максім разбіў акно. У той жа вечар госці з'ехалі.

Назаўтра жанчына патэлефанавала знаёмаму, каб той прыехаў устаўляць шыбу. Каля 15 гадзін крыўдзіцель з сябрам прыехалі да жанчыны. Яны былі без шыбы, але са спіртнымі напоямі і прадуктамі.

Максім сказаў пакрыўджанай жанчыне, што шыбу ўставіць не зможа, бо не знайшоў патрэбнага шкла. Прапанаваў грошы. Аднак грошай, па словах вінаватай, яна не ўзяла. На яе думку, гэта не вырашала праблему.

Жанчына пачала гнаць госця з хаты. Аднак ён не сыходзіў. Тады яна выказала крыўду па-іншаму: не стала наліваць Максіму гарэлку.

Праз пэўны час паміж гаспадыняй і крыўдзіцелем зноў узнікла сварка з-за пабітага шкла. Па словах вінаватай, Максім штурхнуў жанчыну і яна стукнулася галавой аб печку. Мужчына развярнуўся і хацеў выйсці з хаты.

**Тады жанчына ўзяла нож з тумбачкі і ўдарыла Максіма ў спіну.**

Заўважыла, што параніла яго ля пазваночніка.

Спалохаўшыся, нож укінула ў печку, дзе гарэлі дровы. Калі дровы патухлі, узяла з печкі лязо нажа, закруціла ў туалетную паперу і выкінула на двор.

За злачынства суд прыгаварыў абвінавачаную да двух месяцаў арышту. Абставін, якія б аблегчылі яе віну, няма. Тое, што яна здзейсніла злачынства ў стане алкагольнага ап'янення, абцяжарыла адказнасць.

Жанчына працавала паляводам у СВК "Варняны". З месца жыхарства характарыстыка ў яе дрэнная.

У абвінавачанай хранічны алкагалізм. Яна з'яўляецца абавязанай асобай, пазбаўленая бацькоўскіх правоў. Неаднойчы здзяйсняла адміністрацыйныя правапарушэнні.

Асуджаная не пагадзілася з прыгаворам. Яна палічыла пакаранне вельмі строгім і падала апеляцыю ў абласны суд. У скарзе ўказала, што характарызуецца выключна станоўча.

**Дзмітры БАГДАНОВІЧ, памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

# На пяць гадоў можна пазбавіцца свабоды за лжывы званок аб небяспецы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Сёлета ў студзені былі зарэгістраваныя два лжывыя паведамленні аб небяспецы ў Гомельскай і Мінскай абласцях.**

Адзін з выпадкаў быў 9 студзеня ў Барысаве. Вахцёру сярэдняй школы №16 патэлефанаваў невядомы і сказаў, што ў пабудове закладзенае выбуховае ўстройства. Эвакуявалі 343 вучняў, выкладчыкаў і персанал. Інфармацыя пра выбуховае ўстройства не пацвердзілася.

Летась да адказнасці прыцягнулі больш за 30 чалавек, не лічачы тых, да каго прымянілі прымусовыя меры бяспекі і лячэння.

### Прычыны лжывых званкоў

1. Зрыў масавых мерапрыемстваў.
2. Спыненне працы ўстаноў і прадпрыемстваў.
3. Дастаўленне клопату асобам, з якімі вінаватыя ў непрыязных адносінах.
4. Зрыў вучэбна-выхаваўчага працэсу ў вучэбных установах.

Як правіла, людзьмі кіруюць хуліганскія матывы, пачуццё помсты. Штурхае на "подзвігі" алкаголь, парушэнні псіхічнага здароўя.

### Чым пагражае "лжэмініраванне"

Адказнасць за лжывае паведамленне аб небяспецы наступае з 14 гадоў і прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу, арышту, абмежавання волі да трох гадоў альбо пазбаўленне волі да пяці гадоў.

Калі дзеянне здзейсненае паўторна альбо групай асоб па папярэдняй змове, альбо пацягнула шкоду ў буйным памеры, альбо іншыя цяжкія наступствы, то прадугледжанае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да сямі гадоў.

За дзіцячыя свавольствы расплачваюцца дарослыя. Калі дзіцяці, якое паведаміла пра лжывае мініраванне, не споўнілася 14 гадоў, наступае адміністрацыйная адказнасць бацькоў, а дзіця ставяць на ўлік у інспекцыю па справах непаўналетніх.

Акрамя гэтага, вінаватая асоба павінна пакрыць усе затраты дзяржаўных структур і суб'ектаў гаспадарання па папярэджанні неіснуючай пагрозы, а таксама расходы, звязаныя з парушэннем функцыянавання прадпрыемстваў і іншых арганізацый.

Цяпер органы ўзброеныя комплексам тэхнічных сродкаў, якія дазваляюць у сціслыя тэрміны высветліць асобу, якія зрабіла лжывы званок аб небяспецы. Раскрывальнасць дадзенага злачынства складае больш за 85%.

**Паводле начальніка аддзела аператыўнай дзяжурнай службы міліцыі грамадскай бяспекі УУС Мінскага аблвыканкама палпалкоўніка міліцыі Вадзіма ПРЫГАРЫ.**

# Юныя даследчыкі з рэгіёна едуць на абласны фестываль

ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МЯДЗЕЛ

**10 сакавіка ў Мінску збяруцца даследчыкі. Вы падумалі пра сур'ёзную навуковую канферэнцыю?**



Даша-вандроўніца на фестывалі юных даследчыкаў у Вілейцы.

Фота vileyka.edu.minskregion.by

А вось і не. Наўрад ці тут будзе шмат сур'ёзнасці. Справа ў тым, што ўсім даследчыкам ад пяці да сямі гадоў.

У традыцыйным фестывалі для дзяцей дашкольнага ўзросту "Я – даследчык" будуць удзельнічаць выхаванцы дзіцячых садкоў нашага рэгіёна. Яны вельмі паспяхова выступілі на раённым фестывалі і прайшлі адборачны тур на абласны.

Сярод іх **Жэня Ткачэнка** з Вілейкі. Дзяўчынка перамагла ў намінацыі "Незвычайнае ў звычайным".

Жэня ходзіць ў дзіцячы садок №8. Яна пераканала журы ў тым, што шкарлупіна ад звычайнага яйка – гэта сапраўдны цуд. Паказала, што можна зрабіць з гэтага матэрыялу, і расказала, чым ён карысны.

Загадчыца садка **Таццяна Астаповіч** расказала, што паспяховаму выступленню Жэні папярэднічала вялікая праца ўсёй сям'і. З мамай і бабуляй дзяўчынка рабіла са шкарлупіны цікавыя цацкі, віншавальныя паштоўкі, гатавала заліўное.

З дапамогай выхавальніцы **Вольгі Козел** дзяўчынка праводзіла доследы са шкарлупінай.

"Сяброўства з канём. Сакрэты маленькай дзяўчынкі", так называлася праца **Леры Сячко**, выхаванкі дашкольнага цэнтра развіцця дзіцяці курортнага пасёлка Нарач. Працу дзяўчынка прадставіла ў намінацыі "Дзіця і прырода".

Па словах намесніцы загадчыцы цэнтра **Святлана Трахімовіч**, такую тэму вызначылі дзякуючы працы мамы Леры. **Аляксандра Сячко** працуе трэнерам па верхавой яздзе. Яна і стала кіраўніком дачкі ў даследчай дзейнасці. Да таго ж жанчына па адукацыі педагог-псіхолаг. Гэта таксама паспрыяла добрай падрыхтоўцы дачкі.

Па словах мамы, далучаць Леру да працы з конямі яна стала для таго, каб дзяўчынка вырасла добрай, незамкнёнай. Спачатку проста брала з сабой на працу. Потым пачаліся заняткі. На сённяшні дзень Лера можа ездзіць вярхом, паказваць цыркавыя нумары. Яна добра даглядае за канём: ведае, як яго накарміць і пачысціць.

У сваёй працы дзяўчынка расказала, як зразумець, калі ў каня дрэнны настрой, як паводзіць сябе з ім бяспечна, каб не раздражняць жывёлу. Пахвалілася Лера і веданнем камандаў. Дзяўчынка ўжо можа паставіць каня на калені, а можа загадаць узняцца на дыбы.

Падзялілася сваімі назіраннямі за дзецьмі-інвалідамі ў час іпатэрапіі. Па словах дзяўчынкі, пасля зносін з конямі такія дзеці заўсёды больш радасныя, лепш сябе адчуваюць.

**Аня Ярмошка** з валожынскага дзіцячага садка №2 "Вясёлка" ў намінацыі "Дзіця і прырода" эксперыментавала з малаком. Яе праца называлася "Маё Прастаквашына".

**У садку расказалі, што дзяўчынка спрабавала зрабіць з малака карысныя прадукты без дадаткаў.**

З дапамогай кіраўніка **Святланы Рак** яна рабіла тварог, кіслае малако, вяршкі, смятану, малочны кактэйль, марожанае.

Вяршкі маленькая даследчыца здабывала з малака свойскіх казы і каровы, а таксама з пастэрылізаванага малака, якое прадаецца ў магазіне. У выніку эксперымента Аня высветліла, што найбольш вяршкоў у малацэ казы.

Дзяўчынка пераканала журы, што ў дамашніх умовах з малака можна зрабіць карысныя для здароўя прадукты. А яшчэ яна прадэманстравала цікавую ўласцівасць малака. Аказваецца, з яго дапамогай можна маляваць.

Па словах намесніцы загадчыцы садка **Валянціны Каласковай**, Аня – цікаўная і разумная дзяўчынка. Яна ўжо нават мае планы ў далейшай даследчай дзейнасці. Цяпер зацікавілася шакаладам, высвятляе, карысны ён ці шкодны. Кажа, што калі восенню пойдзе ў першы клас, то абавязкова будзе выступаць з гэтай тэмай на фестывалі юных даследчыкаў.

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Наталлі ТУР.

Вясна ў Маладзечне пачалася з выставы работ маладзечанскіх мастакоў.

## Вясна. Жывапіс. Ядвіга Раздзялоўская

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У Маладзечне адзначылі 115-годдзе з дня нараджэння мастачкі Ядвігі Раздзялоўскай.**

2 сакавіка ў Палацы культуры адкрылася выстава маладзечанскіх мастакоў "Вясна. Музыка. Жывапіс".

На выставе гледачы маглі пабачыць самыя веснавыя, празрыстыя і паветраныя працы **Міколы Аўчыннікава, Аляксандра Пашкевіча, Рыгора Мяжуева, Уладзіміра Тамашэвіча, Юрыя Церабуна, Віктара Камлюка, Дзмітрыя Сакалоўскага, Наталлі Аўчыннікавай, Алены Уладыкі, Галіны Сушко, Лізаветы Чырвонцавай, Ірэны Ханеўскай, Інгі Буды, Васіля Казака.**

А пачалося адкрыццё выставы з паказу фільма пра Ядвігу Раздзялоўскую, які калісьці здымаў Юры Церабун.

На слайдах гледачы маглі пабачыць работы Ядвігі Раздзялоўскай, пачуць успаміны пра яе маладзечанскіх мастакоў.

Мікола Аўчыннікаў, які прысутнічаў на імпрэзе, успамінаў пра тое, як маладыя маладзечанскія мастакі любілі прыходзіць на вуліцу Віленскую, 5 да пані Ядзі ў госці.

– Сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі захоўваюцца 24 работы мастачкі, – сказаў Мікола Аўчыннікаў, – і я спадзяюся, што маладзечанцы змогуць пабачыць іх у хуткім часе ў нашым музеі.

Гаварылі пра тое, што Ядвіга Іосіфаўна была не толькі таленавітай мастачкай, але не менш і таленавітым педагогам.

Яна заснавала народную мастацкую студыю, якая працуе і цяпер, выхавала цэлую плеяду вядомых мастакоў, кожнаму магла даць параду ў творчасці і жыцці.

– З ёй можна было гаварыць на любыя тэмы, – гаварыў Мікола Аўчыннікаў.

А вось выкладчыца дзіцячай мастацкай школы **Алена Кучко** гаварыла пра Ядвігу Раздзялоўскую не як пра мастака, а як пра звычайную жанчыну з незвычайным густам.

І, канешне ж, падчас імпрэзы гучала музыка Шапэна, кампазітара, якога так любіла пані Ядзя.

На выставе гаварылі пра тое, што сёлета споўнілася б 90 гадоў **Касцусю Харашэвічу**, сябру Ядвігі Раздзялоўскай, а ў наступным годзе 70-годдзе з дня нараджэння **Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага**, вучня Ядвігі Раздзялоўскай. А гэта значыць, што горад мастацтва і творчасці будзе жыць.

**Наталля ТУР.**

## Тэмай фестывалю "Гонару продкаў" стане вайна паміж князямі

**ВІЛЕЙКА**

Другі фестываль зладзяць у Вілейцы 1-2 ліпеня. Яго прысвецяць грамадзянскай вайне 1432-1438 гадоў паміж двума князямі.

Арганізатары распавялі, што на фестывалі правядуць шмат відовішчных выступленняў рыцараў. Запросяць этнічныя і фальклорныя калектывы, зладзяць майстар-класы па танцах і старажытных рамёствах.

Сёлета тэмай свята будзе грамадзянская вайна 1432-1438 гадоў. Яна адбывалася ў Вялікім Княстве Літоўскім паміж князямі Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам.

Праграму фестывалю яшчэ дапаўняюць, але пляцоўкі, калектывы і рыцарскія клубы ўжо вызначылі.

На фестывалі зробяць экспазіцыю даспехаў і зброі і сярэднявечных прадметаў побыту.

**Аддзел інфармацыі.**

# Фартушок для веніка і даспехі для рыцара:

## у Смаргоні адкрылі выставу рамеснікаў

**СМАРГОНЬ**

**Вы бачылі калі-небудзь жалезныя ружы і льняныя цюльпаны? А ведаеце, для чаго патрэбная пакетніца?**

Калі ваш адказ – не, то варта наведаць выставу "Рукатворныя цуды", якую 3 сакавіка адкрылі ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Тым больш, што часу дастаткова: выстава працягнецца да 3 красавіка.

– Першапачатковa мы задумвалі выставу адной майстрыхі – **Людмілы Канаплёвай**, – распавядае адна з арганізатараў выставы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Самаркіна**. – А потым вырашылі не абмяжоўваць адным аўтарам, бо смаргонцам ёсць што паказаць.

Напрыклад, удзельнік выставы **Сяргей Барташэвіч**, член Саюза майстроў Беларусі. Ён не толькі пляце з лазы сам. Ён ужо навучыў гэтай справе многіх землякоў у Смаргоні. А яшчэ раз на тыдзень ездзіць праводзіць заняткі ў Мінск.

Побач з працамі настаўніка на выставе ёсць творы яго вучняў **Святланы Шульгі, Ірыны Маеўскай, Валянціны Нядвецкай, Раісы Лявонавай, Тацццяны Пастарнак, Святланы Юшко, Тамары Сасны, Ядвігі Лось.**

На крэселцы і табурэткі, сплеценыя Сяргеем Барташэвічам, так і хочацца прысесці. Але нельга. І не толькі таму, што гэта экспанат выставы. Усю мэблю для выстаў і для навучання майстар робіць маленькіх памераў. А для інтэр'еры можа зрабіць і вялікую.

Смаргонка **Тамара Кажан** – на пенсіі. Таму цалкам можа аддавацца любімай справе лозапляцення. Дзеля гэтага жанчына нават ездзіць у маладзечанскі Палац культуры. Тут яна ўваходзіць у народны калектыў "Вербачка".



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Вольга Самаркіна паказвае працу Анатоля Вяршковіча.

### Пяшчотныя ружы і рыцарскія даспехі: так працуюць кавалі

Калі смаргонец **Уладзімір Гербік** працуе пераважна па дрэваапрацоўцы, то як назваць майстра **Сяргея Бандарэнку**, адразу не ведаеш. Ён і каваль, і ганчар, і дрэваапрацоўшчык.

Сяргей паспяхова займаецца ўсімі гэтымі рамёствамі. На выставе для яго прац адвялі цэлы вялікі кут. Ёсць тут каваныя насякомыя, птушкі, чарапаха, кані, нават экзатычны скарпіён.

Прыцягвае ўвагу пано з дрэва. А ў драўляных вазах стаяць драўляныя кветкі. Для прыгажунь – брошкі, кулоны, завушніцы. Усё таксама з дрэва.

І гэта яшчэ не ўсе захапленні Сяргея Бандарэнкі. Ва ўласным двары ён зрабіў копію Крэўскага замка.

Напэўна, **Анастасія Бандарэнка**, дачка Сяргея, талентам пайшла ў бацьку. Не, яна не займаецца кавальствам. Для сябе знайшла больш жаночую справу – гарачы батык. Гэта такі від мастацтва, калі карціна на тканіне ствараецца з дапамогай расплаўленага воску або падобных рэчываў.

**Анатоль Вяршковіч** разам з пяшчотнымі пялёсткамі жалезных руж выраблае даспехі і зброю старажытных рыцараў. Прычым даспехі робяцца не толькі для таго, каб упрыгожыць сцяну ў музеі і ўразіць наведнікаў. Анатоль – пастаянны ўдзельнік гістарычных рэканструкцый. Даспехі спатрэбіліся, каб паўдзельнічаць у рэканструяванай Грунвальдскай бітве.

### Расіянка, якая палюбіла беларускі лён

Пасля мужных рыцарскіх даспехаў па-жаночаму пяшчотна выглядаюць вырабы **Людмілы Канаплёвай**. Майстрыха нарадзілася ў Расіі. Але ўжо колькі год жыве ў Беларусі. Яна палюбіла краіну, яе культуру, а яшчэ беларускі лён.

Менавіта з ільняной тканіны вырабы **Людмілы Канаплёвай**. Іх тут мноства. Традыцыйныя сурвэткі, абрусы, ручнікі. І не зусім традыцыйныя скарбонкі, цюльпаны, упрыгожванні для посуду, фартушок для веніка. А яшчэ пакетніцы. Аказалася, вельмі зручная рэч у гаспадарцы.

Пакетніцу ў выглядзе вялікай прыгожай ільняной цукеркі вешаюць на кухні. Зверху ў яе кладуць пакеты, а знізу пры патрэбе іх можна даставаць. Гаспадыні, пэўна ж, ацэняць такое вынаходства: і на кухні прыгожа, і пакеты не валяюцца абы-дзе.

Дзякуючы такому захапленню і кватэра **Людмілы Канаплёвай**, і нават яна сама заўсёды выглядаюць прыгожа і арыгінальна. З лёну майстрыха зрабіла абрус і занавескі для ўласнай кухні. З гэтай тканіны шые сабе адзенне і нават упрыгожвае абутак лёнам.

Майстры заўсёды гатовыя падзяліцца сваімі прафесійнымі сакрэтамі. На адкрыцці **Людміла Канаплёва** і **Сяргей Барташэвіч** правялі майстар-класы. Людміла навучыла наведнікаў рабіць лялькумотанку з лёну. А Сяргей паказаў, як плесці беларускі кошык. Пры патрэбе творцы абяцалі паўтарыць майстар-класы.

Па словах Вольгі Самаркінай, на выставу будуць запрашаць школьнікаў. Вельмі добра, лічыць жанчына, калі дзеці адарвуцца ад сваіх гаджэтаў і даведаюцца пра рамёствы нашых продкаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**